Сведчаць дакументы

# ХРОНІКА ЗЛАЧЫНСТВАЎ 1939-1941

*Заканчэнне. Пачатак у №№28-34,37,39-41,43-51 за 1996 г.,№№1-4,6-8,11 за 1997 г.*

## Спіс асоб, асуджаных Вілейскімі абласнымі судом і Ваенным трыбуналам

| Прозвішча, імя, імя па бацьку | Арт. | На колькі год | |
|---|---|---|---|
| Міхневіч Казімір Станіслаўв. | 80 п. А. | 5 год | 24.12.40 г. |
| Шварчынскі Мікалай Эдуард. | 64, 76 | ВМН | 10.12.40 г. |
| Біргер Тадэвуш Стэфан. | 64, 76 | ВМН | 10.12.40 г. |
| Шыманец Станіслаў Адамавіч | 64, 76 | 10 год і 5 г. п/п | 10.12.40 г. |
| Ключынскі Мечыслаў Норбут. | 64, 76 | ВМН | 10.12.40 г. |
| Бялевіч Антон Антонавіч | 64, 76 | 10 год і 5 г. п/п | 10.12.40 г. |
| Тужынскі Іван Зігізмундав. | 64, 76 | ВМН | 10.12.40 г. |
| Лагун Франц Фёдаравіч | 64, 76 | 6 год і 3 г. п/п | 10.12.40 г. |
| Язерскі Уладзімір Іосіф. | 64, 76 | 6 год і 3 г. п/п | 10.12.40 г. |
| Мацулевіч Генрых Восіфавіч | 73 | 3 г. і 3 г. п/п | 10.12.40 г. |
| Квадаўскі Ян Восіпавіч | 73 | 3 г. | 10.12.40 г. |
| Дашынскі Эдуард Юзэфавіч | 72 | 8 г. | 21.5.40 г. |
| Ермаковіч Іван Сямёнавіч | 72а | 5 г. | 21.5.40 г. |
| Ермаловіч Мечыслаў Браніслаў. | 72 | 6 г. | 28.4.40 г. |
| Худы Іосіф Міхайлавіч | 72а, 76 | 5 г. | 15.5.40 г. |
| Румовіч Браніслаў Іосіфавіч | 72а, 76 | 8 г. | 8.7.40 г. |
| Шабло Станіслаў Восіпавіч | 72а | 8 г. | 27.7.40 г. |
| Пашкевіч Станіслаў Вікенцьевіч | 72 п. б. | 5 г. | 31.7.40 г. |
| Трацяк Рэмальд Іпалітавіч | 72 | 10 г. | 22.6.40 г. |
| Скур'ят Антон Вікенцьевіч | 74 | 10 г. | 13.7.40 г. |
| Мімовіч Казімір Пятровіч | 245а | 1 г. | 25.5.40 г. |
| Копіц Аляксандр Іванавіч | 22-120 | 1,5 г. | 20.2.40 г. |
| Баранская Яніна Станіслав. | 22-120 | 1,5 г. | 9.4.40 г. |
| **Ваенным трыбуналам** | | | |
| Жалабоўскі Іосіф Іванавіч | 70,76 | ВМН | 25.11.40 г. |
| Валуевіч Віктар Аляксандрав. | 70,76 | ВМН | 25.11.40 г. |
| Дунец Уладзімір Уладзіміравіч | 27-70 | 10 г. і 5 г. п/п | 25.11.40 г. |
| Лаўрыновіч Уладзімір Усцінавіч | 24-70 | 8 г. і 3 г. п/п | 25.11.40 г. |
| Жалабоўскі Валерый Іванавіч | 73 | 3 г. і 2 г. п/п | 25.11.40 г. |
| Шалай Аўгусціян Аўгусціянав. | 120 | 1 г. 8 мес. | 25.11.40 г |
| Шалай Мацвей Аўгусціянавіч | 24-70 | апраўданы | 25.11.40 г |

*Нам. пракурора Вілейскай вобласці па спец. справах (Айзенштадт)*

Лікбез

# Залаты дэсант на вёску Урлікі

***МЯДЗЕЛ. З больш як паўтысячы юрыдычных асоб, зарэгістраваных у дзяржаўнай падатковай інспекцыі, ніхто не выкарыстоўвае мясцовыя краявіды, каб зарабіць. Калісьці адна фірма ладзіла месцы адпачынку на возеры Мястра, ды некаторыя прыватнікі прапаноўвалі летам свае паслугі па аўтаперавозках і рамонце транспарту. Сур'ёзна турысцкім бізнесам тут не займаюцца.***

Камерсанты ў асноўным гандлююць (здаецца, толькі МП "Варт" наладзіла вытворчасць макароны), а дзяржаўныя структуры "выжываюць". Як прыклад: камбінат кааператыўнай прамысловасці стаў неканкурэнтаздольным. У раёне скарацілася рэалізацыя яго хлебабулачных вырабаў. Жыхарам больш даспадобы прывазны хлеб. А гэта цягне за сабою скарачэнне вытворчасці і, магчыма, рабочых месцаў. Таму распараджэннем выканкома ад 18 сакавіка прадпрыемствам і арганізацыям усіх формаў уласнасці забараняецца гандаль хлебабулачнымі вырабамі, якія завозяцца з іншых раёнаў. Стратны аўтапарк №7, каб палепшыць стан спраў, аказвае насельніцтву паслугі па вырабу помнікаў.

Усяго ў раёне чатыры дзесяткі стратных прадпрыемстваў і арганізацый,— у асноўным, дзяржаўных. Усе стогнуць, а кемлівасці, каб заняцца новай справай, не хапае. Можа, будучае за прыватнымі прадпрымальнікамі, бо звычайны гандаль у іх неяк не ідзе? 120 фізічным асобам (з 300) прапанавалі спыніць прадпрымальніцкую дзейнасць з прычыны невыканання імі падатковага заканадаўства. Такі ж дакумент рыхтуецца яшчэ на 60 чалавек. Але каб зарабляць на турызме, патрэбны элементарныя веды— з чаго пачынаць, што можа прынесці прыбытак, як працаваць, каб не парушыць законы?

Сёння на турызме зарабляюць тым, што забяспечваюць адпачываючых алкагольнымі напоямі— прычым без усялякай рэгістрацыі свайго дробнага бізнесу. У вёсцы Нарач грамадзянаў Аблама і Гуркова за гэта аштрафавалі на паўмільёна і на 6,5 мільёна рублёў адпаведна. Такі бізнес у курортнай зоне не выпадковасць.

Пакуль мясцовыя арганізацыі і ўстановы скардзяцца на жыццё, не заўважаючы грошы, што ляжаць пад нагамі, сталічныя бізнесмены сур'ёзна ўзяліся за турысцкі бізнес на Мядзельшчыне. Прыцягнулі ў вёску Урлікі сапраўдны карабель. Па словах жыхароў, прыйшлося ў некалькіх месцах абясточваць і здымаць высакавольтныя лініі электраперадач, каб судна даставіць на месца. На ціхай вадзе тамашняга возера той карабель ператворыцца ў экзатычны рэстаран з гучнай назвай і добрымі прыбыткамі.

*Васіль САВІЦКІ.*



**Нью-Мядзел — 2001 год. Турысцкі рай.**

Адным абзацам

**Я**к паведаміла Міністэрства статыстыкі і аналізу рэспублікі, ў лютым 1997 года ў параўнанні са студзенем, індэкс спажывецкіх цэнаў склаў 106,6 працэнта. Паколькі ён перавысіў пяціпрацэнтны парог на 6,6%, будуць індэксаваны грашовыя даходы насельніцтва за люты (дапамогі, стыпендыі, заработная плата супрацоўнікаў бюджэтнай сферы). Сацыяльныя пенсіі за люты індэксуюцца на 20,8% ад узроўню снежня 1996 года.

**П**асля нядаўняга візіта ў Мінск віцэ-прэм'ера РФ Кулікова, што курыруе, акрамя МУСа, блок мытных і падатковых пытанняў, адпала неабходнасць ва ўвядзенні на граніцы Беларусі з Расіяй мытных пастоў. Праблемы, звязаныя з кантрабандным праходжаннем праз тэрыторыю рэспублікі мытных грузаў з трэціх краін, будуць вырашацца за кошт узмацнення кантролю і каардынацыі дзеянняў мытных службаў.

**Н**а адбыўшайся 25 сакавіка сустрэчы прэзідэнта А. Лукашэнкі з прадстаўнікамі беларускага грамадскага аб'яднання пацярпелых укладчыкаў разглядаўся механізм кампенсавання ўрону, нанесенага грамадзянам рэспублікі незаконнай дзейнасцю некаторых фінансавых кампаній. Да пацярпелых прэзідэнтам аднесены і грамадзяне, чые ўклады былі абясцэненыя ў выніку палітыкі дзяржавы, што праводзілася і прывяла да гіперінфляцыі. У Савеце Міністраў распрацоўваецца форма вяртання ўкладзеных насельніцтвам сродкаў, аднак крэдытаў камерцыйным структурам на гэтыя мэты выдзелена не будзе.

**У** рэспубліцы 30 сакавіка пераводам стрэлак гадзіннікаў на адну гадзіну наперад будзе ўведзены "летні" час.

**В**ясна— пара не толькі ажыўлення інтэграцыйных настрояў і сустрэч і амаль заўсёды ідучымі з імі побач маніфестацый апазіцыі, але і пара суботнікаў, што мы паспелі ўжо і падзабыць. У Мінску агульнагарадскія суботнікі з удзелам работнікаў прадпрыемстваў, арганізацый і навучальных установаў пройдуць 29 сакавіка і 12 красавіка.

**З**годна з зацверджанай Саветам Міністраў новай методыкай аплаты, у бліжэйшы час узрасце плата за пражыванне ў інтэрнатах. У адпаведнасці з ёй, кошт квадратнага метра ў інтэрнаце практычна прыроўнены да кошту жылля ў стандартнай гарадской кватэры. Гэта прывядзе да зніжэння сабекошту прадукцыі прамысловых прадпрыемстваў, што датуюць утрыманне ведамаснага жылфонду.

**Б**еларускі аўтамабільны завод выпусціў узор кар'ернага самазвала грузападымальнасцю 280 тон, аснашчанага бартавым камп'ютэрам і відэакамерай. Калі на такія машыны знойдуцца заказчыкі, гатовыя выкласці 2-3 мільёны долараў за адзінку, то вытворчасць гэтых самазвалаў будзе наладжана на серыйнай аснове.

**Я**к заявіў на прэс-канферэнцыі 17 сакавіка першы віцэ-прэм'ер урада Пётр Пракаповіч, Беларусь плануе перайсці да ўтварэння свабоднага курсу беларускага рубля праз 4-6 месяцаў. Плануецца адмяніць, у прыватнасці, практыку абмежавання аб'ёму заявак пры пакупцы валюты на біржах. Прыйдзецца пачакаць.

**М**аладзечна гасцінна сустрэла школьнікаў-удзельнікаў рэспубліканскіх алімпіяд. У ГПТВ-21 вызначаюць лепшых знаўцы беларускай мовы, у СШ N 6 - рускай. Усяго ў горад прыехала каля 200 чалавек з усіх абласцей. Прадстаўнікі Міністэрства асветы адзначылі цудоўнае адкрыццё, якое прайшло ў школе мастацтваў.

## "Дзіцячы свет" для дарослых

***МАЛАДЗЕЧНА. АТ "Маладзечнагандаль" аб'ядноўвае звыш за два дзесяткі прадуктовых і прамтаварных магазінаў. Двухпавярховы будынак "Дзіцячага свету" выгадна размясціўся ў цэнтральнай частцы горада, але ў яго прасторныя залы зазіраюць рэдкія прахожыя. Выбар дзіцячага адзення небагаты.***

- Каб выжыць у сучасных умовах, прымаем на рэалізацыю ўсё, што можна, - гаворыць дырэктар магазіна Л. Дзюрдзеева. - Прадаем чахлы для аўтамабіляў, ільняныя сталовыя камплекты, шторы і ў вялікай колькасці - адзенне для дарослых.

Праблема забеспячэння дзяржаўных гандлёвых прадпрыемстваў таварамі стала відавочнай. "Маладзечнагандаль" сёння неплацежаздольны. У магазінах няма абаротных сродкаў; шэсць абласных гандлёвых баз прапануюць на рэалізацыю ў "Дзіцячы свет" тое, што звычайна не знаходзіць сваіх пакупнікоў і зноў вяртаецца на базы, адвісеўшы нейкі час на вешалках.

Сёння паказчыкі таваразвароту ў магазіне забяспечваюцца рэалізацыяй не дзіцячага, а дадатковага тавару. Значную частку ў ім складае і арэндная плата за плошчы магазіна, што здаюцца камерцыйным структурам. Перспектывы гандлёвых прадпрыемстваў намеснік дырэктара АТ "Маладзечнагандаль" М. Бельскі бачыць у абнаўленні асартыменту, які б адпавядаў сучасным патрэбам людзей:

- Пытанне вырашыцца тады, калі станем закупляць тавар самі. Даўгі пастаўшчыкам і залежнасць ад іх перашкаджаюць працаваць з высокімі паказчыкамі прыбытку і прапаноўваць толькі тыя вырабы прамысловасці, якія карыстаюцца попытам.

*Наталля РАБЧАНКА.*

Крымінал, здарэнні

## Шукалі злачынцаў, а знайшлі спірт

***АШМЯНЫ. Падзеі развіваліся так. Адзін літовец і жыхар Пухавіч напалі на прыватнага таксіста з Мінска і завалодалі аўтамабілям "Рэно-19". Неўзабаве той звярнуўся па дапамогу на КПП да пагранічнікаў і ўжо праз чатыры гадзіны ля вёскі Жукі супрацоўнікі міліцыі знайшлі аўтамабіль.***

Пачаліся пошукі злачынцаў. Яны, як аказалася, зайшлі паесці-выпіць у дом аднаго з жыхароў Цудзенішак, але падобную "трапезу" перарвала міліцыя.

Самае цікавае было пасля. Выявілася, што крадзены аўтамабіль яны хацелі абмяняць у Каменным Лозе на спірт.

Пасля праверкі такой версіі было выяўлена 2,5 тоны спірту "Раял", розныя гарэлачныя этыкеткі, коркі і іншае. Карацей, сапраўдны завод.

Аказалася, шукалі адно, а знайшлі другое.

*Аддзел інфармацыі.*

## Настаўніца выйшла на справу

***ВІЛЕЙКА. Дваццацігадовая настаўніца з Пухавіцкага раёна і яе два сябры на шашы Маладзечна-Вілейка спынілі іншамарку.***

Запрасілі падвезці да горада, а ля вёскі Заспорня, пад пагрозай пісталета, загадалі спыніцца. Знялі з вадзіцеля, яго сяброўкі скураныя курткі, людзей прывязалі да дрэва і зніклі на іх жа машыне. У Смаргонскім раёне злачынцаў затрымалі.

*Аддзел інфармацыі.*

## Трагедыя за трагедыяй

***АСТРАВЕЦ. Ледзьве пачалі загойвацца раны ў людзей ад трагедыі, якая адбылася ў вёсцы Індрубка, дзе ў агні загінулі двое дзяцей, як адбылася яшчэ адна.***

У вёсцы Варняны ўзнік пажар у доме грузчыка рознічна-гандлёвага прадпрыемства Станіслава Мятлеўскага, падчас якога загінуў сам гаспадар. Прычынай узгарання стала, хутчэй за ўсё, курэнне ў нецвярозым стане.

*Аддзел інфармацыі.*

## Адзін пакурыў, а ўсе папрацавалі

***МАЛАДЗЕЧНА. 14 гадзін тушыла тарфянікі пажарная аварыйна-выратавальная служба.***

Нехта падпаліў траву. Агонь перакінуўся на тарфяны масіў і ахапіў 80 гектараў. Небяспека ўзнікла для свінакомплексу, рыбгаса. Выкарыстоўваючы нетрадыцыйны спосаб, тэхніку пажар лакалізавалі, а потым і перамаглі. Вёска І забеліна Хажоўскага сельсавета ўвайшла ў гісторыю па маштабе пажару і часу барацьбы з ім.

*Аддзел інфармацыі.*

# Пасткі ад бакалаўра

*МАЛАДЗЕЧНА. Беларуская гімназія вядомая стабільнымі поспехамі вучняў. Аказваецца, не адстаюць ад іх і выкладчыкі.*

Нядаўна педагагічны калектыў павіншаваў настаўніцу пачатковых класаў В. Асіповіч са званнем бакалаўра, якое яна атрымала сёлета разам з чырвоным дыпломам аб заканчэнні БДПУ імя Максіма Танка. У Рэспубліканскім інстытуце павышэння кваліфікацыі маладая настаўніца скончыла курсы і цяпер новую методыку "Развіццёвае навучанне" паспяхова скарыстоўвае ў эксперыментальным 3 "Г" класе.

— Мы не даем дзецям гатовыя веды,— гаворыць Валянціна Андрэеўна,— а толькі наводзім вучняў на іх. Выкарыстоўваем схемы, мадэлі. Прапануем спрэчныя сітуацыі, ставім пасткі, каб навучыць дзяцей думаць самастойна.

На яе ўроках ніколі не пачуеш: "Сядай, ты памыляешся". Няправільныя адказы патрэбныя класу, каб дзеці пасля роздуму і высноў самастойна прыйшлі да правільнага рашэння.

Па сістэме развіццёвага навучання ў гімназіі вучацца яшчэ два першыя і два другія класы— В. Свірыда, А. Макарэвіч, Г. Асіповіч і Р. Ігнатовіч. Настаўнікі прымаюць удзел у праграме "Абнаўленне гуманітарнай адукацыі", якая ажыццяўляецца Беларускім Фондам Сораса сумесна з Міністэрствам адукацыі. Для старшакласнікаў арганізаваны дадатковыя спецкурсы. Фонд Сораса дапамагае ў перападрыхтоўцы настаўнікаў прадметаў гуманітарнага цыклу, у забеспячэнні падручнікамі і неабходнай метадычнай літаратурай.

Уступіў у сілу дагавор беларускай гімназіі з педуніверсітэтам: у рамках рэформы, накіраванай на павышэнне кваліфікацыі настаўнікаў, лепшыя выпускнікі рашэннем педсавета і рэктара БДПУ будуць дапушчаны да здачы сумесных выпускных-уступных экзаменаў.

*Наталля РАБЧАНКА.*

# Майкл у творчым пошуку

*МАЛАДЗЕЧНА. Людзі мараць аб празаічным: зарабіць, набыць жыллё, машыну. Ці наогул з'ехаць за мяжу. Міхаілу патрэбныя грошы, каб выпусціць альбом сваіх песень. З заробкамі выкладчыка фізвыхавання мару не здзейсніць. Кожны нясе па жыцці свой крыж. Для Міхаіла Карабухіна складанне і выкананне песень— сэнс жыцця.*

Ён піша музыку на вершы класікаў, сучаснікаў, бярэ ўрокі прафесійнай гульні на гітары. Разам з выкладчыкам музвучылішча Карлам Пагоцкім склалі праграму з 15 песень. Міхаіл толькі спрабуе знайсці свайго слухача. Па 4 гадзіны штодзень праводзіць з сяброўкай-гітарай. А песню на верш Яўгена Курдакова "Я зноў шчаслівы і жывы" няблага было б паслухаць і сталічнай публіцы.

*Аддзел інфармацыі.*

## Як нас падманваюць

# 2+2=5

*МАЛАДЗЕЧНА. Не спакушанаму хадзіць па магазінах не пажадана. Нават калькулятар, які часцяком прыхопліваем з сабою, не дапаможа. Усё адно аблічаць і падмануць. Аддзел дзяржнагляду за стандартамі, сродкамі вымярэння і якасцю прадукцыі цэнтра стандартызацыі і метралогіі клапоціцца пра абарону правоў спажыўцоў. Выяўляе парушэнні, карае. Але ж прадаўцы нас запэўніваюць, што 2+2=5.*

У 1993 годзе зацверджаны "Правілы гандлю на рынках РБ". Магчыма, на тое яны і правілы, каб іх абмінаць. Напрыклад, на рынку шырока выкарыстоўваліся вагі для дамашняга карыстання, якія не прызначаны для гандлю. Праверкай выяўлена, што пры нагрузцы ўзорнымі гірамі вагой у 2 кг яны паказвалі ад 2050 да 2500 грамаў. У Ільянскім гасразліковым аб'яднанні Вілейскага райспажыўтаварыства з 99 адзінак 14 празнаны непрыгоднымі для карыстання.




Бывае, нас падманваюць (можа, і не наўмысна?), калі тавар яшчэ не трапіў у продаж, а толькі прайшоў тэхкантроль. У пячэнні "Віцебскае" Куранецкага кандытарскага цэха Вілейскага райспажыўтаварыства, вараной кілбасе "Маскоўская" кілбаснага цэха калгаса "Гарадзілава" Маладзечанскага раёна была завышана вільготнасць. А ў прадукцыі Ільянскага хлебазавода заніжана ўтрыманне цукру, тлушчу.

Бывае, прыцягвае нас у магазіне размаляваная скрынка, нестандартная заманлівая бутэлька. Аднак экзатычны выгляд яшчэ не ёсць якасць тавару. У маладзечанскім магазіне "Гасцінец" прадавалі лімонны лікёр без сертыфіката адпаведнасці (стандартам, ДАСТУ). Не было такога дакумента на прадукты харчавання ў прыватнага прадпрымальніка Музычэнкі з Валожына. Таму невядома, з чаго быў зроблены ягоны шакаладны крэм "Аліса". Трапіла ў чорны спіс і МП "Ромашка" з Вілейкі.

Шмат фірмаў, у якіх тэрмін дзеяння сертыфікатаў адпаведнасці скончыўся, а тэрмін рэалізацыі прадукцыі не выйшаў. З-за не рэалізаваных літаральна адзінак прадукцыі не працягваюць тэрмін сертыфіката. Гэта парушэнне, але не такое ўжо і цяжкае. Спадзяемся, што здароўю спажыўца не пашкодзіць. Так было з яблычным сокам, зялёным гарошкам, што прадаваліся ў Валожынскім магазіне "У добры шлях".

Напрыканцы папярэджу: здароўе спажыўца ў ягоных жа руках. Ніхто не абароніць нас лепш, чым самі сябе.

*Спажывец Васіль САВІЦКІ.*

# Чорная субота

*АШМЯНЫ. Мясцовая лазня, як і многія ў рэгіёне, працуе 2 дні ў тыдзень. Па суботах мые ўсіх жадаючых і бярэ 8 тысяч за ўваход. Пятніца— дзень для льготнікаў: пенсіянераў, інвалідаў. Яны абслугоўваюцца за 4 тысячы.*

Але, па суботах ільготы адмяняюцца. Маўляў, прыйшоў не ў свой дзень— плаці па поўнай. Няўжо тое ж пенсійнае пасведчанне ператвараецца ў звычайную паперку?

*Аддзел інфармацыі.*

# Пра бальнічны кіёск і паштальёна Печкіна

*АСТРАВЕЦ. Другі год у памяшканні райбальніцы працуе газетны кіёск. Акрамя перыёдыкі тут можна набыць розныя тавары— ад школьных сшыткаў да шампуняў. Для людзей, воляй лёсу апынуўшыхся на бальнічным ложку, ён зручны тым, што нават хворы можна быць у курсе ўсіх падзей.*

Працуюць тут дзве жанчыны, у якіх, прынамсі, і імёны аднолькавыя— Валянціны Васілеўская і Ранцава. Яны займаюцца дастаўкай усіх тавараў, забіраючы іх з аддзялення "Саюздруку". А вось з газетамі крыху лягчэй, бо прыносіць іх у кіёск сын В. Васілеўскай дванаццацігадовы Сяргей, які займаецца ў школе ў другую змену, а кожную раніцу дапамагае маці.

На вузле сувязі жанчыны назіральныя, таму назвалі хлопца ласкава: паштальён Печкін.

*Марэк ВЕСНА.*

# Марачныя спонсары

*ВІЛЕЙКА. Летась 600 мільёнаў рублёў з раённага бюджэту зрасходавана на ўтрыманне састарэлых і інвалідаў Куранецкага пансіяната. 6 гадоў таму памяшканне ўчастковай бальніцы прыстасавалі пад пансіянат. Адразу разлічвалі на 25 ложка-месцаў.*

Сёння 40 тамтэйшых жыхароў жывуць за дзяржаўны кошт. Старэйшаму 96 гадоў. Раз-пораз грашыма дапамагаюць спонсары, бо неабходна набыць і харчаванне, якое штодзень даражэе, і наладзіць медыцынскае абслугоўванне, і добры догляд за старымі. Утрымальніца прыватнага пансіяната з германскага горада Уна днямі прывезла 2,5 тысячы марак на рамонт будынка былой бальніцы.

*Аддзел інфармацыі.*

# Vulgus vult decipi, ergo decipiatur!

*Словы ў назве перакладаюцца з латыні як "Натоўп жадае быць падманутым, няхай так і будзе".*

*Нярэдкія скаргі людзей з прычыны непаразуменняў з энерганаглядам. Найбольш распаўсюджаная сітуацыя, калі работнікі названай службы падчас чарговай— звычайна, штогадовай— праверкі даналічваюць даволі значную суму.*

Людзі энергічныя, бывае, не згаджаюцца, што часта дае магчымасць "адбіць" частку грошай. Гэта і наводзіць на думку аб тым, што не ўсё ў парадку "у каралеўстве дацкім". Аб тым жа сведчаць і нашы чытачы. Некаторыя нават сцвярджаюць, што ідзе сапраўднае ашуканства. Не будзем спыняцца на выпадках, кшталту падліку кантралёрам "сярэднегадавога" спажывання электраэнергіі (нармальнаму чалавеку і так зразумела, што зімой расход большы чым летам, а цэны, як вядома, на месцы не стаяць— розніца ж заўсёды будзе на карысць энерганагляду; а падлік расходу спажытай электрычнасці па колькасці разетак ды тэлевізараў наогул можа скончыцца судовым разбіральніцтвам— не на карысць энерганагляду).

Вось адзін з распаўсюджаных спосабаў сумленнага адбірання грошай у грамадзян. Прыходзіць да вас кантралёр, адразае-прыходуе 10 талонаў (за цэлы год, добра, што расцэнкі не мяняліся), але адзінаццаты вяртае, хаця, згодна з лічыльнікам, ён у самы раз.

— Сёння, кажа,— 15 лютага, а з 1-га цана за кВт/гадзіну павялічылася. З вас яшчэ паўталона будзе!

Прастадушныя не пярэчаць. Не задумваюцца, што чарговыя 100 кВт/гадзін мы аплачваем не пры праверцы паказанняў лічыльніка, а пры пакупцы (!) талона. І не варта наглядчыкам за электраэнергіяй спасылацца на падвышэнне тарыфаў: аплачваем спажытае мы не абясцэненымі (у тым ліку і новымі расцэнкамі) грашыма і, да таго ж, часта наперад.

Астап Бендэр да падобнага не дадумаўся. Грошы ён адбіраў рознымі спосабамі, але ж не па два разы за адно і тое.

*Сяргей СПАЖЫЎЦОЎ.*

*Спадзяемся, што прадстаўнікі таварыства абароны спажыўцоў выкажуць свае меркаванні па прыведзеных сітуацыях.*

## Забойства года

# Усе канцы ў хлеў

*Людзі развітваюцца з жыццём: узрост, хвароба, няшчасныя выпадкі, ваенныя дзеянні. Але самае страшнае - забойствы. І сярод іх ёсць проста жудасныя выпадкі.*

*АШМЯНЫ. "Следчы па важнейшых справах пракуратуры Гродзенскай вобласці юрыст 1 класа Ражко, разгледзеўшы матэрыялы крымінальнай справы № 14/0917, пастанавіў: крымінальную справу спыніць."*

Сям'я Пашкевіч-Бараноўскі з вёскі Паляны жыла, як пэўная частка вяскоўцаў. Пілі гарэлку, высвятлялі паміж сабою адносіны. Гаспадар быў на 10 год маладзейшы за жонку. Выпіўшы, часцяком яе збіваў. А падставы для застолляў знаходзіліся заўсёды. У адно з чарговых святаў гаспадыня, магчыма, вырашыла адпомсціць за ўсе здзекі.

Калі яе муж адпачываў на ложку, схапіла сякеру. Тры ўдары па галаве абухом і азін вастрыём сталі для яго смяротнымі. Там жа, на ложку, пад вясёлым, недарагім дываном, гаспадыня пачала рассякаць труп. У крыві былі сцены, дзверы, нават радыёкропка. Мусіць, пад музыку весялей працавалася. Пазней часткі цела выкінула ў хлеў, некаторымі ад душы пачаставала кабана. Стаміўшыся, жанчына легла адпачыць на той самы ложак.

З заключэння судова-медыцынскай экспертызы: "Смерць грамадзянкі Пашкевіч наступіла ў выніку атручвання этылавым спіртам". Ніякіх цялесных пашкоджанняў на трупе Пашкевіч не выяўлена".

Праз тры дні вяскоўцы выклікалі аператыўнікаў. Акрамя мёртвых вышэйназваных асоб разборкі, у вядры з вадою ля ложка плавала патопленае мышаня. Па двары бегаў кабан, у зубах якога захраснулі вантробы гаспадара. Вілкамі збіралі па кутках часткі цела. У моргу з іх, быццам з мазаікі, збіралі чалавека, бо адабралі ад кабана дробна пасечаныя кавалкі. Толькі галава ахвяры была "проста адсечана" ад тулава.

За мінулы год п'янства стала прычынай гвалтоўнай смерці 18 чалавек. Людзі гінулі ад рук злачынцаў, заканчвалі самагубствам, таліліся, атручваліся алкаголем.

Аўтар удзячны пракурору Уладзіміру Аніську за прадастаўленыя матэрыялы па крымінальнай справе.

*Васіль САВІЦКІ*

# Па лесе ездзілі "Ікарусы"

*АСТРАВЕЦ. Мясцовыя пагранічнікі за два апошнія зімовыя месяцы затрымалі 6 аўтобусаў "Ікарус", якія спрабавалі перасячы мяжу лясны-мі сцежкамі.*

У іх знаходзіліся літоўскія камерсанты (амаль 70 чалавек), якія везлі на продаж у Расію розны тавар ці вярталіся адтуль. Фіналам "вояжаў" стала канфіскацыя каля 230 тысяч долараў ЗША і тавару. І калі ў гэтых выпадках фартуна адвярнулася ад "чаўнакоў", то мясцовыя жыхары атрымалі цудоўную магчымасць набыць канфіскаваны тавар у крамах па вельмі смешных цэнах.

*Маркел АНДРЭЙЧЫК.*

# Ёсць такая арганізацыя

*МЯДЗЕЛ. Кандыдат біялагічных навук Таццяна Жукава працуе на біястанцыі БДУ, што на беразе Нарачы, ужо шмат гадоў. Тут праводзяць доследы, вывучаюць заканамернасці азёрных сістэм, іх біялагічную прадуктыўнасць, пагаршэнне якасці вады пад уздзеяннем чалавека.*

У апошнія гады, гаворыць Таццяна Васільеўна, у вадзе азёраў нарачанскай групы стала значна менш хімічных рэчываў. А ў канцы 80-х гадоў у Нарачы пасяліўся двухстворчаты малюск і стаў хутка размнажацца. Як ён сюды трапіў - дакладна невядома. Гэты малюск фільтруе ваду, прапускаючы цераз сябе.

Хто-ніхто можа запратэставаць: маўляў, якая чысціня, калі ў возеры немагчыма купацца, - адразу нейкія балячкі ўскокваюць. Таццяна Васільеўна растлумачыла, што прычына ўсяму - самі адпачываючыя, якія кормяць птушак. Дзікія лебедзі і качкі з'яўляюцца пераносчыкамі мікраскапічных чарвей, лічынкі якіх і выклікаюць раздражненне.

Біястанцыя падтрымлівае сувязі з Акадэміяй навук, Маскоўскім інстытутам водаахоўных праблем, Кіеўскім інстытутам гідрабіялогіі, інстытутам прыродазнаўства Санкт-Пецярбурга, гідрабіялагічнай станцыяй на Мікалайскіх азёрах, што ў Польшчы.

А яшчэ шмат каштоўных ведаў было проста знішчана, калі мінулым летам невядомыя выкралі з лабараторыі камп'ютэр. Хтосьці пакваліўся на электронную скрынку, у "памяць" якой былі ўведзены важныя доследы. Цяпер імі наўрад ці хто пакарыстаецца.

*Яніна БУГЛАК.*

